Цана асобнага нумару 15 гр.

Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 43 (94). Вільня, Чацьвер 26 Траўня 1927 г. Год III

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

Няхай жыве Беларускі Народ!

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
ВІЛЬНЯ, ЗАВАЛЬНАЯ 6. (Wilno, Zawalna 6.).
Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 3 гадзіны апрача сьвята.
Рэдактар прыймае ад 12 да 2 гадз.

Зямля Сялянству бяз выкупу!

Падпіска:
на адзін месяц — 1 зал., на 3 месяцы — 2 зал., на 6 месяцаў 4 зал., на год — 8 зал.
Для заграніцы удвая даражэй.
Аплата надрукаванага залежыць ад рэдакцыі
ВЫХОДЗЕ Ў СЕРАДУ І СУБОТУ.

ОРГАН БЕЛАРУСКАГА СЯЛЯНСКАГА САЮЗУ.

## НА ВЫБАРЫ.

Ня гледзячы на лібэральную польскую канстытуцыю, якая гварантуе выбарныя самаўрады, гэтых самаўрадаў дагэтуль няма. Калі на этнаграфічна польскіх землях ёсьць нешта падобнае да самаўрадаў, то на беларускіх землях пануе ўлада бюракратычных урадоўцаў, якія кіруюць ня толькі справамі, што належаць да іх кампэтэнцыі, але і справамі, якія павінны па закону належаць да самаўрадаў.

Цяперашні польскі Сойм, які ў сваей большасьці складаецца з польскіх нацыяналістычных элемэнтаў, баючыся дапусьціць да гаспадараваньня мясцовых (Беларусаў на беларускіх землях, Украінцаў на ўкраінскіх землях і г. д.) жыхараў, хоча прыняць закон аб самаўрадах пярэчны канстытуцыі. Гэты Сойм хоча абрэзаць правы нацыянальных меншасьцяў на карысьць Палякаў, а пакуль яшчэ гэтага не правёў, пазволіў ураду сваеўладна распараджацца самаўрадавым жыцьцём. Гэтае ўмешваньне ўлады ў самаўрадавыя ўстановы на нашых землях давяло да таго, што ўжо ў працягу 7-ёх год павятовым самаўрадам распараджаецца староста, а валасным і меставым— войт ці бурмістр вызначаны тым самым старастам. Валасная ці меставая рада, калі дзе-небудзь і ёсьць, дык пераважна падабрана так, каб была паслухмяным аружжам у руках адміністрацыйнае ўлады.

Такі стан рэчаў, магчыма, існаваў-бы яшчэ шмат даўжэй, але прышоўшы пасьлямаёвы ўрад апынуўся без сваей большасьці ў Сойме і таксама напаткаў некаторыя меставыя рады, якія асталіся вернымі папярэднім урадам, што іх паклікалі на магістрацкія лавы. Вось, каб пазбавіцца непажаданага складу меставай рады і каб адначасна зрабіць пробу на выбары ў Сойм, якія павінны будуць адбыцца, урад марш. Пілсудскага абвесьціў выбары ў некаторых паасобных местах у меставыя рады. Гэтыя выбары маюць паказаць, ці польская эндэцыя мае перавагу ў гарадох, ці групы, што сьлепа вераць цяперашняму ўраду і бяскрытычна схіляюцца перад ім. Гэтая проба сіл прынясе тыя, ці іншыя рэзультаты для Палякаў, але нацыянальныя меншасьці таксама павінны выказаць свае сілы і сваю арганізованнасьць.

Пакуль што на нашых землях абвешчаны выбары толькі ў Віленскую меставую раду і затым Беларусы—жыхары м. Вільні павінны выявіць сябе і правесьці сваіх кандыдатаў у Раду. Рэч ясная, што як палітыка ўсяго польскага ўраду, так і палітыка цяперашніх магістратаў наскрось шовіністычная і скіравана проці нацыянальных меншасьцяў. Нічога дзіўнага, што ў сувязі з гэтым нацыянальныя меншасьці павінны імкнуцца да правядзеньня ў лік радных сваіх прадстаўнікаў. Лік прадстаўнікаў паасобных меншасьцяў у Радзе ня будзе адыгрываць рашучае ролі, але супольнае выступленьне ўсіх нацыянальнасьцяў можа стварыць паважную сілу, якая будзе магчы плодна бараніць свае інтарэсы. Вось гэтая супольнасьць інтарэсаў нацыянальных меншасьцяў і імкненьне да здабыцьця як найбольш кандыдатаў без патраты астаткаў галасоў, гаворыць за тое, каб нацыянальныя меншасьці ішлі на выбары супольным блёкам. Рэч ясная, што такі агульна-нацыянальны блёк вельмі трудна, ды часам і немагчына, стварыць на'т сярод паасобных нацыянальнасьцяў, у якіх выступаюць вялікія сацыяльныя розьніцы.

Мы, Беларусы, сацыяльна ня маем вялікіх розьніцаў. Палажэньне нашага інтэлігента і палажэньне нашага работніка ці рамесьніка так блізкім зьяўляецца між сабой, што ўсе Беларусы могуць ісьці разам на выбары. Калі-ж частка быўшая пад уплывамі Грамады і можа быць абаламучана і не захоча аддаць голас за сваіх кандыдатаў Беларусаў, то значэньне гэтае часткі так малое, што сьмела можна сказаць, што Беларусы ўсе разам будуць ісьці нацыянальным фронтам.

Цяперашняе палажэньне Расейцаў у Вільні таксама блізка падходзе да палажэньня Беларусаў. І вось дзеля гэтага, а таксама і дзеля ўсіх раней прыточаных аргумантаў Беларускі Выбарчы Камітэт заключыў блёк з Расейскім Камітэтам. Каб больш здабыць мандатаў для абароны правоў нацыянальных меншасьцяў, Беларусы з Расейцамі пойдуць разам на выбары і будуць галасаваць за адзін супольны сьпісак.

---

У дзесятыя ўгодкі сьмерці вялікага беларускага песьняра **МАКСІМА БАГДАНОВІЧА** ў суботу 28 г. траўня ў царкве Сьв.-Троіцкага манастыра а 9 гадз. раніцай будзе адслужана заупакойная літургія, а у 11 гадз. паніхіда.

---

## Максім Багдановіч.

25 траўня г. г. кончылася 10 гадоў, калі жорсткая сьмерць далёка ад роднае старонкі, далёка ад роднага народу на чужыне ўлажыла ў магілу Максіма Багдановіча.

М. Багдановіч, гэта беларускі паэт — ды ня толькі паэт, а яшчэ і філёзаф, ды ня толькі філёзаф, а яшчэ і служка красы, гэтак характарызыюць крытыкі яго творчасьць. Калі ўзяць пад увагу яго кароткае, бо ўсяго 25-ці гадовае жыцьцё і вышэй успомненыя яго мастацкія рысы творчасьці, дык перад намі паўстане гігант Беларускага П'емонту, геній, які сваёю паэтыцкаю творчасьцю ўзнёс Беларускую поэзыю на Парнас, узяўшы ад парнаскай музы тую красу Слова і мудрасьць Духа, якія прыпаднёс Беларускаму Народу скрысталізаваўшы ў прыгожы „Вянок".

Максім Багдановіч радзіўся ў Менску ў 1892 годзе дзе бацька яго быў вучыцелем гімназіі.

Сярэднюю адукацыю Максім Багдановіч прайшоў у Ніжнім-Ноўгарадзе і Яраслаўлі, куды з Менску быў пераведзены яго бацька на службу. Пасьля М. Багдановіч уступіў у яраслаўскі юрыдычны ліцэй і калі ў 1916 годзе на сканчэньні ліцэя прыехаў на сталае жыцьцё ў Менск, дык страшэнная для Беларусаў хвароба—сухоты, перашкодзіла яму жыць тут і тварыць... Ня гледзячы на тое, што хвароба тачыла яго арганізм, ён не хацеў пакідаць роднае старонкі, а дзеля гэтага стоіла многа стараньняў яго прыяцеляў—угаварыць М. Багдановіча паехаць у Крым на лячэньне. І вось, там, 25 траўня 1917 году М. Багдановіч памёр. Дык вось знача, магіла нашага песьняра-паэта, філёзафа і служкі красы далёка ад роднага народу і роднае старонкі!..

Па словах яго бацькі, М. Багдановіч з беларускім словам пазнаёміўся на трынаццатым годзе жыцьця. Пазнаёміўся і зачараваўся... Зачараваўся беларускімі казкамі...

На сямнаццатым годзе жыцьця М. Багдановіча ў адзінай таго часу беларускай часопісі „Наша Ніва" № 1 за 1909 год, зьявіўся яго першы верш прысланы з Ніжняга-Ноўгараду. І там, далёка ад Бацькаўшчыны, ён не забываў яе і памятуючы яе служыў ён як умеў ды як мог.

У 1913 годзе вышаў у Вільні зборнік з друкарні Марціна Кухты, зборнік вершаў М. Багдановіча пад назвам „Вянок".

Гэта той „Вянок", аб якім сам пясьняр, будучы на курацыі ў Крыме напісаў:

У белым доме, дзе я ўміраю
У мора ля самай бухты,
Я не самотны, я кнігу маю
З друкарні Марціна Кухты".

І праўда, калі чытаеш гэты „Вянок", дык далёка ўцякае самотнасьць, бо думкі, якія пясьняр выліў са свае душы і ўлажыў у гэты „Вянок", паўстаюць як жывыя і ўносяць у той казачны сьвет красы і хараства адкуль яны прышлі. А там!.. Ці-ж можна там адчуваць адзіноту?..

Адыйшоў ад нас у іншы сьвет пясьняр цудоўных чараў і красы, але не загінуў, яркім

# ВЫБАРЫ У МЕСТАВУЮ РАДУ.

## Апавешчаньне

**Аб'яднанага Беларуска-Расейскага Камітэту для выбараў у Віленскую Меставую Раду.**

22-га г. траўня ў сувязі з наступаючымі выбарамі ў Віленскую Меставую Раду паміж Беларускім і Расейскім Выбарчымі Камітэтамі заключаны блёк, паводле якога пастаноўлена ісьці на выбары адным супольным сьпіскам.

Падрабязны сьпісак сваіх кандыдатаў у сябры Рады і нумар сьпіску Камітэт абвесьціць у найбліжэйшых днях.

Склад Камітэту:

В. В. Багдановіч (сэнатар),
А. І. Більдзюкевіч,
Л. Л. Белеўскі,
І. А. Емельянаў,
Ф. М. Ярэміч (пасол),
Б. С. Туронак,
А. С. Рахлін-Румянцаў,
Н. В. Саўкоў.

Вільня, дня 23 траўня 1927 г.

Адрэсы:

а) Аб'яднанага Камітэту—Людвісарская 1. **Адчынены ад 11 да 1 гадз. і ад 5 да 7.**
б) Беларускага Камітэту—Завальная 6—5.
в) Расейскага Камітэту — Зыгмунтоўская (Набярэжная) 26.

### Беларускі Выбарчы Камітэт.

У сувязі з выбарамі ў Віленскую Меставую Раду на апошнім тыдні адбыўся сход прадстаўнікоў беларускіх арганізацыяў, на якім быў заснаваны Беларускі Выбарчы Камітэт. У склад прэзыдыуму Камітэту ўвайшлі: сэн. В. Багдановіч, пас. Ф. Ярэміч, гр. П. Каруза і д-р Б. Туронак.

Камітэт месьціцца на Завальнай вул. дом № 6—5.

### Перагаворы з іншымі нацыянальнасьцямі.

У працягу прошлага тыдня вяліся перагаворы між Беларусамі, Літвінамі і Расейцамі ў справе стварэньня супольнага блёку. У тракце гутарак выясьнілася, што немагчыма стварыць агульны блёк нацыянальных меншасьцей.

### Аб'яднаны Беларуска-Расейскі Камітэт для выбараў у Віленскі Меставы Самаўрад.

Посьле таго, як перагаворы паміж прадстаўнікамі нацыянальных меншасьцяў не далі да агульнага блёку, Беларусы дагаварыліся з Расейцамі, пастанавілі разам ізьці да выбараў і стварылі Аб'яднаны Беларуска-Расейскі Камітэт для выбараў у Віленскую Меставую Раду.

У склад камітэту ўвайшлі ад Беларусаў: сэн. Багдановіч, пас. Ф. Ярэміч, д-р Б. Туронак і гр. Більдзюкевіч, ад Расейцаў: гр. І. А. Емельянаў, А. С. Рахлін-Румянцаў, Горачко і Саўкоў.

Аб'яднаны выбарчы Камітэт арганізаваў камісіі:

Агітацыйную, інформацыйна-кантрольную і фінансавую. Апрача гэтага будуць арганізавана 7 раённых выбарчых Камітэтаў Аб'яднанага Беларуска-Расейскага Камітэту.

Аб'яднаны Беларуска-Расейскі Камітэт месьціцца на Людвісарскай вул. дом № 1.

### Радных 48 асоб.

Паводле апошняга ўрадавага сьпіску з 1919 году ў Вільні налічвалася насяленьня на 130.000 асоб. У сувязі з гэтым выбарчы камісар гр. Лучынскі ўстанавіў лік радных места Вільні на 48 асоб.

Урадавыя сьпіскі выказваюць, што ў м. Вільні налічваецца каля 100.000 асоб маючых права выбарчага голасу, аднак ад гэтае лічбы адыходзяць 9.000 асоб, якім польскія ўлады не даюць польскага грамадзянства. Такім чынам, усіх маючых права голасу ёсьць 90.000 асоб. Калі прыняць пад увагу, што галасуючых будзе 80%, то на кожны мандат прыпадзе 1500 галасоў.

### Выбарчыя раёны.

На апошнім паседжаньні галоўнага выбарчага камітэту, у склад якога ад Беларусаў запрошаны інж. Л. Дубейкоўскі, установлена 57 выбарчых раёнаў. Кожны раённы выбарчы камітэт мае складацца з 5-ёх асоб.

### Сьпісак выбарных раёнаў.

| Раен | Школа № | |
|---|---|---|
| 1. | 52. | Вёска Ерузалімка. |
| 2. | 6. | Вілкамірская вул. 31. |
| 3. | 32. | Кальварыйская 76—левае крыло. |
| 4. | 27. | Кальварыйская 73—у двары. |
| 5. | 46. | Антокальская 106. |
| 6. | 15. | Антокальская 32. |
| 7. | 13. | Пірамонт 10. |
| 8. | 13. | „ 10. |
| 9. | 9. | Кракаўская 25. |
| 10. | 25. | Вітальдовая 37. |
| 11. | 2. | Інфлянская 9—фронт. |
| 12. | 4. | „ 9—у двары. |
| 13. | 31. | Кошыковая 7. |
| 14. | 16. | Міцкевіча 60—уваход направа. |
| 15. | 10. | Панская 7. |
| 16. | 16. | Міцкевіча 60—уваход налева. |
| 17. | | Працоўня Слейдова. Завальная 5. |
| 18. | 24. | Мастовая 7—І паверх. |
| 19. | „ | „ „—II паверх. |
| 20. | 39. | Каралеўская 9. |
| 21. | 25. | Полацкая 2. |
| 22. | 42. | Філярэцкая 12. |
| 23. | 23. | Вёска Горы, Чугуначная калёнія. |
| 24. | 45. | Віцебская 5. |
| 25. | 45. | Беластоцкая 8. |
| 26. | 11. | Зарэчча 5. |
| 27. | 17. | Скапоўка 4. |
| 28. | | Магістрат, Дамініканская 2. |
| 29. | 1. | Жэлігоўскага 1. |
| 30. | 37. | Віленская 10. |
| 31. | 22. | М. Пагулянка 8. |
| 32. | 7. | В. Погулянка 38—левая старана. |
| 33. | 19. | Шэптыцкага 11. |
| 34. | 34. | В. Пагулянка 14. |
| 35. | 14. | Троцкая 14. |
| 36. | 47. | Вострабрамская 5. |
| 37. | 14. | Лідзкі зав. 7, Францішканскія муры. |
| 38. | 3. | Вострабрамская 5—правы бок. |
| 39. | 3. | Вострабрамская 5—уваход з Пасажу. |
| 40, | 28. | В. Стэфанская 37—партэр. |
| 41. | 36. | Вівульскага 18. |
| 42. | 28. | В. Стэфанская 37—I паверх. |
| 43. | 19. | „ „ 11—на права. |
| 44. | | Склад. |
| 45. | 7. | Пагулянка 38. |
| 46. | | Разьніца, дом адміністрацыі. |
| 47. | 31. | Кошыковая 6. |
| 48. | 30. | Добрай Рады вул. 24. |
| 49. | 26. | Курляндзкая, дом Маліноўскага. |
| 50. | 18. | Рудніцкая 56—уваход I. |
| 51. | 51. | Шкаплерная 25. |
| 52. | 18. | Радунская 56—уваход II. |
| 53. | 5. | Бэліны 10. |
| 54. | 33. | Славянская 15—царква, правае крыло. |
| 55. | 33. | Славянская 15. Царква. |
| 56. | 27. | Кальварыйская 73—правае крыло. |
| 57. | 21. | Шкаплерная 26—уваход II. |

## „У першыя ўгодкі маёвага перавароту".

Пад гэтакім назовам вышла польская кніжачка. Напісаў гэтую кніжачку віцэ-маршалак сойму І. Дашынскі, як падаюць газэты, асабісты прыяцель маршалка Пілсудскага, тварца маёвага санацыйнага перавароту.

У названай кніжацы І. Дашынскі заўзята бароніць тых лёзунгаў, пад якімі адбыўся пераварот, а іменна: маральнай направы. Ён кажа, што без маёвага перавароту прышла-б поўная пагібель польскай дэмакратыі ад хіенапястаўскіх ватажнікаў. Дзеля абароны дэмакратыі, быццам ратаванай маршалкам Пілсудскім, І. Дашынскі жорстка нападае на сучасных міністраў, якія сваімі недэмократычнымі ўрадаваньнямі разачаравалі ўсіх супрацоўнікаў і прыхільнікаў маёвага перавароту. Гэта бадай што самае цікавае, калі робяцца закіды за недэмократычныя ўчынкі рукам і нагам, якія зьяўляюцца выканаўцамі замыслаў галавы, а не самую галаву, якая парадзіла гэтыя замыслы набуджае рукі і ногі да дзейнасьці.

У сваёй кніжачцы І. Дашынскі не памінае і нацыянальных меншасьцей, дык бяручы пад увагу, што казённыя газэты як польскія гэтак сама і беларускія („Беларускае Слова" і „Беларускі Дзень") пішуць, што для Беларусаў гэты год быў вельмі карысным і салодкім, мы падаем некаторыя выпіскі з яго кніжачкі, каб выявіць мерку тых карысьцяў, аб якіх пяюць казённыя салаўі: Паўлюкевіч і Ўмястоўскі.

„У дапаўненьне сваіх увагаў аб палітыцы пасьлямаёвага ўраду, — піша І. Дашынскі на 62 старон. сваёй кніжачкі, — хачу адзначыць адносіны ўраду да нацыянальных меншасьцяў. Маршалак Пілсудскі знае „Крэсы" гэтак, як ніхто іншы, і ніколі ня быў прыхільнікам нацыянальнага ўціску ўва імя польскіх дзяржаўных інтарэсаў. Гэта-ж ён ішоў у 1920 годзе на Кіяў з вялікім плянам вызваленьня Ўкраіны і выдаў у 1919 годзе віленскую адозву да Беларусаў. Яго западозрывалі эндэкі шавіністы ў „фэдэралізьме" і вінавачаньнямі ў гэтым напаўнялі ўсю Польшчу".

Гэтак характэрызуе І. Дашынскі маршалка Пілсудскага, як вялікага прыяцеля нацыянальных меншасьцяў, які, калі судзіць па вышэй прыведзеным дадзеным, ня толькі, што ня мае захопніцкіх намераў, а нават і фэдэрацыйных, а проста зьяўляецца што-ні-ёсьць запрадным збаўцаю ад чужацкага панаваньня над Украінаю і Беларусяй. Дык вось пасьля таго і дзівіць нас, чаму марш. Пілсудскі ў той час, калі дайшоў да ўлады ня выконвае сваіх добрых замераў да тэрыторыяльных нацыянальных нацыянальных меншасьцей?! А праўдзівасьць таго, што ў гэтым кірунку нічога ня зроблена мы находзім у той-жа кніжачцы І. Дашынскага, які піша: „Мінае ўжо год ад маёвага перавароту, але-ж ні Украінцы і ні Беларусы ня адчулі зьмены сыстэмы ўрадаваньня. Паліцэйская ўлада, палявыя суды, асуды на сьмерць, усё яшчэ ёсьць часьценькім зьявішчам публічнага жыцьця на „Крэсах". Не ўступкамі ані прызнаньнем нацыянальных правоў Украінцам і Беларусам кіруецца пасьлямаёвы ўрад, а толькі здабыткамі да цяперашняе сыстэмы..."

Далей І. Дашынскі адзначае, што ніякія рэпрэсіі, што ніякія дробныя ўступкі нацыянальным меншасьцям іх не здаволяць, а толькі „даць „крэсавым" народам належныя ім правы, не пужаючыся „легалізацыі" камунізму—гэта была-б у сучаснай Польшчы запраўдная рэвалюцыя, але-ж гэта, пасьлямаёвы ўрад, „ня маючы рэвалюцыйнае спадчыны" абмінае..."

Гэтак гавора не які „выўратовец" ці „антыдзяржаўнік", які толькі можа „злосна зьвягаць на Польшчу", а выдатны польскі палітык і дзеяч, віцэ-маршалак яе Сойму.

## З пустога ды у парожнае.

Шмат хто думаў, што „Родныя Гоні" і запраўды культурна-літэратурная часопісь, ажно памаленьку, „шыла з мяшка вылазіць", а ў рэзультаце гэтага выясьняецца, што „Родныя Гоні" ні больш ні менш,—экспозытура Луцкевіча.

„Родныя Гоні" выходзячы пад фактычным рэдактарствам Луцкевіча, перадрукавалі рэвэляцыі аднэй папярэдніцы „Нашай Праўды", якімі імкнуцца зьбіць цыфровыя даныя пасла Ярэміча ў месячніку „Нацыя" аб лічбе беларускага насяленьня ў Заходняй Беларусі.

Паўстае пытаньне: навошта ім гэта патрэбна? Хіба проста так па інэрцыі, абы заводзіць новыя і новыя гутаркі аб тым самым, абы пераліваць з пустога ды ў парожнае.

У артыкуле пасла Ярэміча ў „Нацыі", які зьмешчаны і ў № 22 „Сял. Нівы" гаворыцца, што „ў Польшчы—болей як 2 міліёны" Беларусаў, а вось Луцкевічаўская рэптылія „Родныя Гоні" даказваюць зусім быццам іншае, а іменна, што Беларусаў пад Польшчаю ёсьць „ня звыш 2 міліёнаў", а 2.846.563 чал. Гэта знача што пасол Ярэміч падаў цыфры прыблізныя, а „Родныя Гоні" фактычныя. Калі-б гэта было праўдзіва, дык і можна было-б падзякаваць „Родным Гоням" за папраўку, але-ж самі „Родныя Гоні" сумляваюцца ў праўдзівасьці гэтых даных, бо пішуць: „Лічба гэтая, ведама, ня зусім чыста точная, але прыблізная, бо тачнюсенькая яна была-б тады, калі-б зрабіць бесстароньняе сьпісаньне насяленьне". Дык падаючы няточныя цыфры і тут-жа сьведчачы аб іх нефактычнасьці і на аснове гэтага рабіць закіды ды дакоры каму іншаму ў нечым благім, можа толькі той, хто сам у сабе ў сваей псыхіцы мае супярэчнасьці.

Цяпер становіцца ясна, што Беларусаў ёсьць пад Польшчаю болей як 2 мільёны, а колькі іменна ніхто ня знае, бо нават сілы варожыя паслу Ярэмічу пры ўсей сваей тэндэнцыйнасьці не даказалі ніякае фактычнасьці і колькі не выкладалі натугаў, дык асталося толькі „звыш 2-х міліёнаў", а колькі іменна? Гэта ўжо пытаньне, якое стаіць на чарзе выясьненьня, гэтак і асталося нявыясьненым.

У артыкуле пасла Ярэміча гаворыцца: „Зямельная рэформа, праўда, праведзена, але адабраная ад вялікіх земляўласьнікаў зямля, пераважна не-Палякаў, аддана выключна прышлым з Заходу польскім цывільным калёністым і вайсковым асаднікам".

Што можна мець проці гэтакае інфармацыі? Аднак-жа „Родныя Гоні" і гэта находзяць не справядлівым, бо рэформа іх зданьнем „яшчэ ўсё толькі праводзіцца". А калі гэтак, дык нельга знача пісаць, аб тым, што той рэформай, якая ўжо праведзена, зямля была адабрана ад земляўласьнікаў не-Палякаў і аддана асаднікам—Палякам? Гэтак паны з „Роднкх Гоняў?"

Дык вось, цяпер ужо добра стала ведамым, што „Родныя Гоні" замест таго каб даць сваім чытачом запраўды нешта культурнае, нешта цэльнае, імкнецца зьбіць прыблізную лічбу Беларусаў у Заходняй Беларусі, таксама прыблізнаю лічбаю, не даючы нічога пазытыўнага рэальнага, запраўднага фактычнага.

У гэтым і выяўляецца Луцкевічаўская тэндэнцыя „Родных Гоняў" папустому зьвягаць на Беларусаў не падпарадкаваных „яго вялікасьці" Антоняму Новаму.

# НАВІНЫ.

**10-я ўгодкі М. Багдановіча.** У дзесятыя ўгодкі сьмерці беларускага паэта Максіма Багдановіча ў нядзелю 29 г. траўня а 7½ гадз. вэч. у памешканьні Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры, Завальная 6—5, адбудзецца ўрачыстая акадэмія.

Гр. Я. Шутовіч прачытае рэфэрат аб творчасьці і жыцьці М. Багдановіча. Будуць дэклямаваны вершы і будзе пяяць беларускі хор.

— **Літвіны і выбары.** Літоўскае грамадзянства яшчэ не заняло аканчальнага становішча ў справе выбараў у мест. раду. Часьць Літвіноў прапануе ня ісьці на выбары і такім чынам выказаць свой пратэст проці польскай улады. Другая частка грамадзянства прапануе пайсьці на выбары самастойна, не заключаючы блёку з іншымі нацыянальнасьцямі. Гэтая апошняя прапазыцыя мае найбольш даных на тое, што будзе прынята літоўскім грамадзянствам.

— **Літоўска-Беларуская сэкцыя Інстытуту для досьледаў спраў нацыянальных меншасьцяў.** 20 мая адбылося ў Вільні другое паседжаньне Літоўска-Беларускае сэкцыі Інстытуту для досьледаў спраў нацыянальных меншасьцяў, якога галоўная сяліба ёсьць у Варшаве. На гэтым паседжаньні апрача Палякаў, якія зьяўляюцца закладчыкамі літ.-бел. сэкцыі былі прысутнымі Беларусы і Літвіны. З прычыны ненармальных адносінаў польскае ўлады да справаў нацыянальных меншасьцяў, Беларусы і Літвіны заявілі, што ўстрымліваюцца з запісяй у сябры Інстытуту і што прышлі на паседжаньне з інфармацыйнымі мэтамі.

Цікава тут адцеміць адну характэрную рыску з жыцьця польскага Інстытуту для досьледаў спраў нацыянальных меншасьцяў. Паводле прынятага сэкцыяй рэгуляміну старшыню сэкцыі вызначае варшаўскі цэнтральны ўрад інстытуту, апрача таго ўсе пастановы літоўска-беларускай сэкцыі робяцца важнымі толькі пасьля таго, як будуць зацьверджаны варшаўскім урадам. Як бачым, Варшава ня вера на'т і свайму вызначанаму старшыні, бо засьцерагае сабе права ўневажніваньня пастановаў сэкцыі. Усё гэта гавора аб адным, што дасьледы спраў нацыянальных меншасьцяў будуць праводзіцца з чыста польскага пункту гледжаньня і з прымешкай палітычнае ахварбоўкі.

— **Беларускі спэктакль.** У в. Шаўлянах, Браслаўскага пав., вучыцелькаю беларускай прыватнай школы Інстытуту Гаспадаркі і Культуры —М. Булыга, ладзіўся 15 траўня г. г. беларускі спэктакль-вечарына на карысьць гэтае школы.

— **Маўчаньнем шмат сказалі.** У той час, калі першыя ўгодкі сьмерці беларускага паэта К. Сваяка, усё беларускае грамадзянства асабліва ўрачыста сьвяткавала і адзначыла ўся прэса ня толькі беларуская, але-ж часткава і польская, дык Паўлючкова „Беларускае Слова" і Ўмястоўскага „Беларускі Дзень", гэтую Сваяковую ўрачыстасьць прапусьцілі міма не ўспамянуўшы на'т адным словам.

Не выяўляючы ніякае прыхільнасьці да таго, што запраўды беларускае, ці-ж не надужываюць яны імя Беларуса, гэтыя „Białorusini" ды „Бѣлоруссы"?...

— **„Досьвіткі".** Пад гэтакім назовам вышаў з друку культурна-літературны месячнік, выданы „Беларускаю Хаткаю" Паўлюкевіча, за тыя грошы, якія ён зарабіў на польскай канцэсіі „лёто".

Зьмест гэтага месячніка выключаючы перадрукі і апавяданьне „Гэніяльная ідэя", якое добра напісана,—зусім благі. Мала ў ім літэратуры, няма і культуры.

СЯЛЯНЕ.

Аб усіх крыўдах, аб зьдзеках адміністрацыі і аб вашым жыцьці пішыце ў сваю газэту **„Сялянскую Ніву"**.

# Асуд грамадзкай апініі.

Артыкул пасла Б. Рагулі „Раскрытыя карты" выклікаў сярод усяго запраўды беларускага грамадзянства нябывалае парушэньне і абурэньне на здрадніка.

— „Ганьба, ганьба, ганьба прадажніку, палітычнаму спэкулянту, які прадаваў і прадае наш народ", — чулася з вуснаў кожнага шчырага беларуса. Толькі падуладныя „пракурора" нясвойска сябе чулі і маўчком быццам гаварылі: „Вось зараз у „Нашай Праўдзе" будзе салідная запярэчаньне і мы будзем магчы сьмела глядзець у вочы праўдзе".

Але выходзе № 13 „Нашай Праўды" і сярод падуладных аднадумцаў Луцкевіча запанавала поўная констэрнацыя. Усе чытаюць пісьмо Ант. Луцкевіча і апускаюць рукі з газэтаю!

— Дзе-ж запярэчаньне, што Ант. Луцкевіч ня зрокся незалежнасьці, падпісваючы дагавор з Л. Васілеўскім б. польскім міністрам, а цяпер старшыні камісіі да справаў нацыянальных меншасьцяў?!

Дзе-ж запярэчаньне, што ён не зацьвердзіў форму для беларускага войска, якое мелася разам з польскімі войскамі вызваляць Беларусь з пад савецкай улады ?! Дзе-ж запярэчаньне, што Луцкевіч не прысвоіў сабе грамадзкія грошы, што атрымаў на закупню аружжа?!

А што Луцкевіч адказаў на сувязь з Балаховічам?! А што ён адказаў на асаблівую прыязьнь з Ваявудзкім?! А хто-ж данасіў на беларускіх паслоў?!.

Усе гэтыя абвінавачаньні Луцкевіч прамаўчаў, значыць хоць раз прызнаўся да віны. Толькі постскрыптам захацеў запярэчыць, што ў 19 годзе не сядзеў у Варшаве ў готэлі Саскім але быццам у Вільні. Але гэтае запярэчаньне аказалася звычайнай Луцкевічаўскай маной, бо якраз у гэтым часе ў Саскім готэлі Луцкевіч зацьвярджаў форму для беларускіх вайсковых аддзелаў.

Дык бачым, што ўсё пісьмо Луцкевіча яшчэ больш пацьвярдзіла ягоную ілжывасьць, здрадніцтва і прадажнасьць.

Аднак цяпер, п. Луцкевіч ужо ня будзе магчы баламуціць беларускіх сялян і работнікаў. Пазналі яны ўжо ваўка ў авечынай скуры, пазналі юдашоўскага абаранцеля. З вялікай агідай адвернуцца яны ад ілжывага і дэфэнзыўнага дзеяча і скажуць: годзі табе займацца пракацыйнай работай, ідзі на асуд грамадзкай апініі!

# Да нас пішуць.

### Няпрошаныя апякуны.

(Баранавічы).

Баранавічы—адно з большых местаў у Заходняй Беларусі. Перад вайной гэтае места вельмі шырока разьвівалася дзякуючы чугуначнаму вузлу. Рыскі мір аднак адбіўся на гаспадарчым жыцьці Баранавіч вельмі благім рэхам. Цяпер места заміраe. Як на гаспадарчым полі, так і на культурным пануе поўны застой. Беларускасьць вельмі слаба пашырана і затым дагэтуль у Баранавічах ня было ніводнай беларускай арганізацыі. Затое польскія партыі вельмі ўвіваюцца адны перад другімі і стараюцца ашукваць маласьведамых жыхароў. Так усім добра вядома праца Махая, які афіцыяльна выступаў як старшыня камітэту ППС, а неафіцыяльна быў у зносінах з дэфэнзывай і за сваю працу атрымліваў даходы з дзьвёх крыніц.

Сярод цяперашніх польскіх працоўнікоў вельмі ажыўленую дзейнасьць выяўляе нейкі Цялёўскі. Ён то шушукаецца з польскімі эндэкамі, то ўдае вялікага прыяцеля Беларусаў; аднак зусім незразумелым для ўсіх зьяўляецца тое, што ён жывець бяз ніякае афіцыяльнае працы. Мала гэтага, часта і густа выступае ў ролі няпрошанага апякуна і падсуседжваецца да беларускіх арганізацыяў зусім бязінтэрэсоўна.

Шмат каму з мясцовых жыхараў гэты пан здаваўся запраўдным апякуном, але вось выхад польскае газэты: „Беларускі Дзень" раскрыў усім вочы напраўду. Усім ведама, што гэтую газэту выдаюць Палякі, і калі пасьля яе выхаду пан Цялёўскі пачаў вясьцю агітацыі за гэтую польскую газэту ў беларускай мове і пісаць нейкія карэспандэнцыі аб беларускіх арганізацыях,—дык гэтым самым выявіў сваё запраўднае аблічча—чужога няпрошанага апякуна. Час выкажа яшчэ іншыя „дабрадзействы" гэтага чужога апякуна.

Баранавіцкі.

### Вёска прасыпаецца.

12-га красавіка сёл. году, г. зн. на другі дзень Вялікадня, у вёсцы Капцяўшчыне, Гарадзейскай гміны, Нясьвіскага павету ў памешканьні пажарнае каманды адбылася вечарына, дзе і была ў той-жа вечар пастаўлена п'еса „Птушка шчасьця", на карысьць пажарнае каманды.

Аматарамі гэтай п'есы былі: К. Абрамовіч (Янка), М. Маразянка (Маланка), Б. Бука (Жыд) і М. Дуброўскі (лясун), якія надта добра адыгралі свае ролі, асабліва Янка і Маланка. Па заканчэньні доўга грымела саля ад воплескаў множства рук і галасоў прысутных. Вечарына адбылася спакойна бяз ніякіх выпадкаў. Усе разышліся з вялікім здаваленьнем і ўдзячнасьцю камэнданту пажарнай стражы п. С. Сеню, які наладзіў гэтую вечарыну.

Цікавы.

# НАШАЯ ПОШТА.

**Цікаваму, Рыбацкаму:** Матэрыялы атрымалі памагчымасьці зьмесьцім.

**Сяліцкаму:** Цяпер поштай заведзяны такі парадак, што газэты пасылаюцца бяз налепак адрасоў падпішчыкаў. Але пошта павінна сама надпісаць прозвішча кожнага падпішчыка.

Калі пошта Вам не аддае газэты, то скажыце кіроўніку, што калі і далей ня будзе Вам аддаваць, то пашлеце жалабу ў Дырэкцыю.

**Маркевічу:** Адрэс перапісалі на другую пошту.

**Оса:** „Калі-ж папpавіцца"... атрымалі.

**С. Невясёламу:** Пісьмо атрымалі, зьмяшчаем.

**Курыловічу:**—Друкі паслалі.

Паляку Я., Марозу Л., Гуцьку П., Пілецкаму К., Ракевічу У., Курыловічу і Будзьку Д.—пробны нумар паслалі.

Маслонку, Кулакоўскаму—газэту пасылаем.

**Дасталі ад:**

Камейніка Пётры, Базыля Ёды — па 2 зл., Маслёнка Міхася—1 зл.

# Куток сьмеху і сатыры.

### Прыдалася.

— Ну і як, ці памагла вашаму тая масьць, якую яму я запісаў на рану?

— Не памагла, памёр бядак яшчэ месяц назад.

— Дык па што-ж прышлі?

— Гэта дзеля таго, каб пан доктар яшчэ раз тае масьці запісалі!

— А навошта-ж, калі хлапец памёр?

— Бо ёю надта добра чысьціць боты.

Фабрычны склад турбінаў, машынаў і млынскіх каменяў

ФАБРЫКІ Г. КУЛІК У ЛЮБЛІНЕ

РЭПРЭЗЭНТАНТ ТЭХНІК

Ст. Стобэрскі і С-ка

Кантора і склад: **Вільня, Міцкевіча 9.**

Будова і перабудова машынаў. СПЭЦЫЯЛЬНЫЯ ТЭХНІЧНЫЯ ПАРАДЫ. Праекты, падлічэньні, пляны. Спэцыяльныя ўладжэньні „Кашарняў".

—о—

Заступніцтва фірмы БРАТЫ БЮГЛЕР Узвіль (Швайцарыя) МЛЫНСКІЯ МАШЫНЫ.

—о—

Заступніцтва фірмы інж. Г. КІНДТ, Радом ВОДНЫЯ ТУРБІНЫ.

—о—

Машыны, што ёсьць на складзе: ВАЛЬЦАВЫЯ ПАСТАВЫ АДЗІНОЧНЫЯ І ПАДВОЙНЫЯ, АЎТОМАТЫЧНЫЯ ПЭРЛЯКІ „MARS", КАМЕНЬНІ ШТУЧНЫЯ І ФРАНЦУСКІЯ, МАШЫНЫ ДЛЯ АЧЫСТКІ ЗЯРНЯ, МАШЫНЫ ШМЭРГЛЁВЫЯ І ШЧОТКАВЫЯ, АСЬПІРАТОРЫ, АРФЫ „TRYIEURY", ПЛАСКІЯ СІТЫ „PLANZICHTRY" ВІСЯЧЫЯ І СТАЯЧЫЯ, МАШЫНЫ ГРЫЗІКОВЫЯ „REFORMY".

—о—

Дастаўляем: ГАЗАВЫЯ І СПАЛІНОВЫЯ МАТОРЫ, ШВАЙЦАРСКУЮ СЕТКУ НА СІТКІ.

—о—

Фірма дае бясплатна ўсялякія парады ў справе будовы млыноў, уладжаваньня грэбляў і інш.

Адрэс: **Wilno, ul. Mickiewicza Nr. 9, ST. STOBERSKI i S-KA.**

**Дык кожны, хто ўмее чытаць, спяшайся выпісаць сваю газэту „Сялянскую Ніву".**

Рэдактар і выдавец К. Мацкевіч.

Беларуская Друкарня ім. Ф. Скарыны, Вільня—Людвісарская 1.